ДА ДНЯ ВОЛІ

# 25 сакавіка – Дзень незалежнасьці Беларусі

*Заўтра – сьвяты дзень у гісторыі нашай Бацькаўшчыны – Беларусі. Мы будзем адзначаць 82-ю гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі. Першы нумар "ТМ" выйшаў дакладна 3 гады таму, і быў таксама прысьвечаны гэтай тэме. Розныя людзі ў розных жанрах пісалі нам пра БНР і сваё стаўленьне да вялікай падзеі. Гэтым разам вядомы беларускі навуковец, доктар гістарычных навук, прафэсар Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ адмыслова для нашай газэты падрыхтаваў артыкул, прысьвечаны галоўнаму беларускаму сьвяту.*

Дэмакратычна абраны Усебеларускі зьезд у сьнежні 1917 году не пасьпеў устанавіць нацыянальную дзяржаўную ўладу, бо быў разагнаны менскімі бальшавікамі на чале з А.Мясьніковым. Значная частка дэлегатаў Усебеларускага зьезду выказалася за абвяшчэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але Усебеларускі зьезд, як легальны орган улады, пасьпеў абраць Раду зьезду. 22 сьнежня 1917г. (3 студзеня 1918г. паводле новага стылю) Рада зьезда стварыла Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады Усебеларускага зьезду, які павінен быў заняцца беларусызацыяй саветаў у краіне і ўзяць уладу ў свае рукі ў адпаведны момант. Выканаўчы Камітэт быў праваобразам урада Беларусі. Аднак у пачатку 1918г. ён дзейнічаў у паўлегальных і нават нелегальных умовах.

Пасьля ўцёкаў бальшавікоў зь Менску 19 лютага 1918г. і перад прыходам нямецкіх войскаў Выканаўчы Камітэт Рады выйшаў з падпольля і стаўся легальным органам улады ў Беларусі.

21 лютага 1918г. Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага зьезду выдаў Першую Устаўную Грамату да народаў Беларусі, у якой абвесьціў сябе "часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму". Выканаўчы Камітэт стварыў Народны Сакратарыят Беларусі на чале зь Язэпам Варонкам і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. Нямеччына заключыла з савецкім урадам У.Леніна-Ульянава Берасьцейскі мір (3 сакавіка 1918г.) і не прызнала беларускую ўладу, бо паводле Берасьцейскага міру тэрыторыя Беларусі (за выключэньнем Горадні) лічылася расейскай, часова акупаванай нямецкімі войскамі.

Але Рада зьезду і Выканаўчы Камітэт Рады працягвалі дзейнічаць. 9 сакавіка 1918г. Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады выдаў Другую Устаўную Грамату. Гэтым актам абвяшчаўся канстытуцыйны лад Беларусі як дэмакратычнай парлямэнцкай рэспублікі, якая стала называцца адгэтуль Беларускай Народнай Рэспублікай. Да скліканьня Ўстаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада заставалася ў руках Рады Усебеларускага зьезду, а выканаўчая і адміністрацыйная – Народнага Сакратарыяту, прызначанага Радай. Грамадзянам Беларускай Народнай Рэспублікі гарантаваліся ўсе дэмакратычныя правы: свабода слова, друку, сходаў, страйкаў, грамадзкіх аб'яднаньняў, вольнасьць сумленьня, недатыкальнасьць асобы і жыльля. Народам у БНР прадастаўлялася права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, іх мовы абвяшчаліся раўнапраўнымі. 18 сакавіка 1918г. Рада Ўсебеларускага зьезду была пераўтвораная ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі як яе вышэйшы заканадаўчы орган.

Нямеччына і яе саюзьнікі, зыходзячы з умоваў Берасьцейскага міру, не прызналі БНР. У гэты ж час беларускія палітычныя дзеячы ў Вільні дзейнічалі больш рашуча, чым у Менску, у незалежніцкім накірунку. Яшчэ 25-28 студзеня 1918г. яны правялі Беларускую канфэрэнцыю, якая абрала Віленскую Беларускую Раду на чале з Антонам Луцкевічам. Віленская Беларуская Рада 19 лютага прыняла пастанову, паводле якой дзяржаўная сувязь Беларусі з Расеяй была разарваная. 18 сакавіка шэсьць сяброў Віленскай Беларускай Рады (у тым ліку браты Антон і Іван Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі) былі кааптаваныя ў склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і 23 сакавіка прыехалі ў Менск. Паступова беларуская незалежніцкая ідэя ахапіла актыўныя беларускія нацыянальныя сілы.

Пасьля прыезду ў Менск Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвесьціць незалежнасьць БНР. Гэтая прапанова была абмеркаваная на паседжаньні фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Радзе БНР. Пасьля спрэчак фракцыя прыняла гэтую прапанову аднагалосна.

24 сакавіка 1918г. а 8-й гадзіне ўвечары пачалося плянарнае паседжаньне Рады БНР. З дакладам "Палітычнае становішча Беларусі" выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць адпаведную Ўстаўную Грамату аб незалежнасьці Беларусі. Супраць ініцыятывы А.Луцкевіча і фракцыі БСГ у Радзе выступілі прыхільнікі аўтаноміі ў складзе Расеі і ўвогуле праціўнікі незалежнасьці Беларусі – прадстаўнікі земстваў і гарадзкіх дум, габрэйскіх сацыялістычных партыяў. Пасьля бурных спрэчак а 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918г. большасьцю галасоў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі была прынятая Трэцяя Ўстаўная Грамата. Супраць прыняцьця Граматы (а значыць супраць незалежнасьці Беларусі, за аўтаномію ў складзе Расеі) прагаласавалі прадстаўнікі земстваў, гарадзкога самакіраваньня (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і габрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры аб'яднанай габрэйскай сацыялістычнай партыі і расейскія эсэры ад галасаваньня ўстрымаліся.

Трэцяя Ўстаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі зьяўлялася ня толькі палітычным, але й юрыдычным актам, які абвяшчаў Беларусь незалежнай і вольнай дзяржавай. Былі скасаваныя старыя дзяржаўныя сувязі з Расеяй, якія гвалтоўна накінуў расейскі царызм "на наш вольны і незалежны край". Берасьцейскі трактат 3 сакавіка 1918г. не прызнаваўся Беларускай дзяржавай.

У дзяржаўным акце 25 сакавіка былі зацьверджаныя ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян Беларусі, якія былі абвешчаныя ў Другой Устаўной Грамаце 9 сакавіка 1918г. Была вызначаная і тэрыторыя БНР, якая ўключала землі, "дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губэрняў, заселеных беларусамі". Аб будучых дзяржаўных сувязях павінны былі вырашаць самі беларусы ў асобе Ўстаноўчага Сойму.

Такім чынам, абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасьць беларускага народу, страчаную ў канцы XVIII стагодзьдзя ў выніку захопу тэрыторыі Беларусі Расейскай імпэрыяй. Акт 25 сакавіка 1918г. быў лягічным наступствам дзейнасьці Ўсебеларускага зьезду ў сьнежні 1917г. Гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасьць Рады БНР і яе ўраду ў 1918г. і ў наступны пэрыяд.

Рада БНР у эміграцыі і цяпер зьдзяйсьняе ідэю беларускай незалежнасьці.

З актам 25 сакавіка 1918 года вымушаныя былі лічыцца і нямецкія акупанты, хоць яны афіцыйна не прызналі БНР. Таму Рада і ўрад БНР у 1918г. актыўна дзейнічалі ў галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі. Іншыя дзяржавы прызналі незалежнасьць Беларусі, у тым ліку Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украіна, Чэхаславаія.

Урэшце і бальшавіцкі ўрад у Маскве вымушаны быў лічыцца з абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі. Сьведчаньнем гэтага зьяўляюцца дыпляматычныя перамовы прадстаўнікоў беларускага ўраду з прадстаўнікамі савецкага ўраду ў Кіеве і Маскве. У Маскве знаходзіўся генэральны консул БНР А.Бурбіс. У лістападзе 1918г. у Маскву езьдзіў на перамовы з савецкім урадам прэм'ер-міністар БНР А.Луцкевіч. Аднак перамовы ў Маскве былі спыненыя, бо кіраўніцтва бальшавікоў прыняло іншы варыянт.

Дзень 25 сакавіка – Дзень Незалежнасьці – зьяўляецца сьвятам беларускага народу. Акт 25 сакавіка застаецца сымбалем барацьбы беларусаў за незалежнасьць сваёй дзяржавы – Рэспублікі Беларусь, супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі ў любым выглядзе (саюзу, саюзнай дзяржавы), сымбалем барацьбы супраць прамаскоўскага антыбеларускага марыянэткавага і нелегітымнага рэжыму і ягонай палітыкі ліквідацыі сувэрэнітэту Беларусі.

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ

У ГАСЬЦЯХ У КУЛЬТУРНА АСЬВЕТНІЦКАЙ СУПОЛКІ „МАШЭКА"

ЗАПРАШАЕМ У МАСТАЦКІ МУЗЕЙ



08.6.91 А 17.30

ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ЕРМАЛОВІЧА

## Тады многае было наперадзе...

*20 дзён таму пад коламі аўтамабіля загінуў менскі гісторык і беларускі патрыёт Мікола Ермаловіч... "ТМ" тады ніяк не адгукнуўся на гэтую трагедыю. Мы палічылі, што голас нашай сьціплай газэты ў параўнаньні зь недзяржаўнай сталічнай прэсай мала што дадасьць да вядомасьці і вартаснасьці гэтага выбітнага чалавека.*

*Аказалася аднак, што Мікола Ермаловіч мае да нашага рэгіёну ня толькі "навуковае", але й непасрэднае дачыненьне, расповяд аб чым мы атрымалі з дасланага ў рэдакцыю ліста. Падалося цалкам натуральным надрукаваць гэты матэрыял у нумары, які амаль поўнасьцю прысьвечаны 25 Сакавіка – падзеі, дзеля вяртаньня якой у народную сьвядомасьць так шмат зрабіў блiскучы гісторык...*

...Шмат год таму, падчас вандроўкі па Віцебшчыне, мы з Алесем Агеевым натрапілі ў адной з звычайных вясковых крамаў на... кнігу менскага гісторыка Міколы Ермаловіча "Па сьлядах аднаго міфа". Яе немагчыма было знайсьці ні ў сталічных кнігарнях, ні ў абласных. А тут – на табе!..

Пазьней сталася зразумелым, што начальніцкія "інтэрнацыяналісты" зрабілі гэта адмыслова, каб кніжка ня кідалася ў вочы сярод слоікаў селядцоў, бутэлек "чарвіўкі", гумавых ботаў, запалак і вёдраў. Паляжыць тут "належны тэрмін" – і яе можна будзе законна сьпісаць як непапулярную. Надта сьмелай для савецкай улады была кніга, якая (ці ня ўпершыню?!) падавала пэўныя перыяды гісторыі роднага краю ***вачыма беларуса...***

А вясной 1991-га года сьвяткаваўся 70-гадовы юбілей вучонага. Які гэта быў час! Міколу Ермаловіча ўшанавалі званьнем ляўрэата Дзяржаўнай прэміі. У грамадстве ўсё грамчэй гучалі адраджэнскія лёзунгі. Да ўлады праз выбары дзе-нідзе прыйшлі першыя дэмакраты (альбо тыя, хто здаваліся нам такімі).

Грамадзкая культурна-асьветніцкая суполка абласнога цэнтра "Машэка" запрасіла Міколу Ермаловіча на сваю вечарыну з нагоды 330-годзьдзя герба Магілёва. Шаноўнага госьця ад Менску суправаджаў Сымон Глазштэйн (цяпер вядомы журналіст). На вечарыне, у памешканьні цяперашняга мастацкага музэю, а 18-й гадзіне 8 чэрвеня 1991-га сабралася блізу 80 чалавек. Гарвыканкамам тады кіраваў Сяргей Габрусеў, які нашага запрашэньня ня прыняў (адбыў у Палац хімікаў на канцэрт Кабзона), а прадстаўніком ад улады пакінуў на вечарыне свайго тагачаснага памочніка Віталя Васількова (сёньня дырэктар грамадзкай асацыяцыі "Кола сяброў").

Вечарына прайшла цудоўна. Выступ Міколы Ермаловіча "па сярэднявечнай тэме" уразіў кожнага, каму пашчасьціла яго пачуць. А яшчэ быў фальклёрны гурт зь Менску пад кіраўніцтвам Алёны Ткачовай. Былі сьпевы і вершы. Была гітара. А галоўнае – быў агульны настрой на блізкую перамогу беларушчыны, дэмакратыі, волі, дабрыні і праўды... Да цягніка, што мусіў зьвесьці ў сталіцу Міколу Ермаловіча, не хацелася разыходзіцца. Віталь Васількоў, карыстаючыся "уладай", правёў нас у кабінэт старшыні гарвыканкама, дзе невялікая група асабліва гарачых прафэсійных прыхільнікаў Міколы Ермаловіча за кубкамі кавы і віна даседзела да паўночы.

Пры сустрэчах Мікола Ермаловіч заўжды з прыемнасьцю ўзгадваў пра вечарыну ў Магілёве. Ён пра яе памятаў... І мы ніколі не забудзем ні ягоны візыт, ні ягонага навуковага подзьвігу, ні яго самога.

***А.КРАСНАСЛАБОДЦАЎ***

***Фота з архіва аўтара***



